# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**№8 (2514)**

20 лютага 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.


## НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ



**Народны фальклорна-этнаграфічны хор з вёскі Апанчыцы, якім кіруе Вольга Страленя, — адзін са старэйшых самадзейных калектываў Салігорскага раёна. А стварала хор больш трыццаці гадоў назад Вольга Пажыган. Сабрала яна сваіх сябровак, і сталі жанчыны хадзіць на спеўкі. Не адразу іх прызналі і ацанілі. Але самабытныя галасы і песні зачароўвалі.**

**І вось ужо многія гады Апанчыцкі хор знаёміць слухачоў з фальклорнай культурай краю. У рэпертуары — вясельныя песні, купальскія, юр'еўскія і іншыя.**

**З імі беларускія спевакі выступалі ў Мінску і Маскве, у Польшчы, Літве, на Украіне. Гэтыя песні запісаны на пласцінку.**

**НА ЗДЫМКУ: стваральнік хору Вольга ПАЖЫГАН.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

# НАША ЗОЛАТА: МІФЫ І РЭАЛЬНАСЦЬ

Гісторыя беларускага золата цесна звязана з узнікненнем у 1989 годзе Дзяржаўнага навукова-даследчага прадпрыемства БелГЕА, стваральнікам якога быў доктар геолага-мінералагічных навук Віталь Масквіч. У той час вяліся гаспадарчыя дагаворныя работы па нафтавай тэматыцы ў Рэспубліцы Комі. Там беларускія геолагі і пазнаёміліся з калегамі з аналагічнай арганізацыі, дырэктарам якой быў вядомы ў золатапрамысловых колах як "вязучы" шукальнік, заслужаны геолаг Расіі Аляксандр Котаў. Аднойчы ў размове ён пацікавіўся ў калег, як у Беларусі абстаяць справы з радовішчамі золата. Яму адказалі, што наша рэспубліка ў гэтых адносінах традыцыйна лічыцца абсалютна неперспектыўнай, таму што ў чацвярцічных адкладаннях ледніковых абласцей ні пра якое золата нельга і размовы весці. Котаў гэтую азбучную ісціну ведаў, тым не менш заўважыў, што ў яго ёсць методыка, па якой ён бярэцца гарантавана знайсці ў Беларусі золата. Размова гэтая на нейкі час забылася, і ўспомнілі пра яе выпадкова. Котава выклікалі ў Мінск, і ў Савеце Міністраў адбылася гутарка, у ходзе якой была дасягнута дамоўленасць, што БелГЕА інвесціруе ў распрацоўку гэтай праграмы прыкладна 330 тысяч рублёў, што па тым часе было значнай сумай. Праўда, пры гэтым дырэктарам інстытута Віталем Масквічом перад шукальнікамі была пастаўлена вельмі жорсткая ўмова: на працягу месяца пакласці на стол хоць крыху золата.

Неўзабаве да нас прыехалі вопытныя палявыя геолагі Паўночна-Усходняга геалагічнага філіяла (ПоўначГЕА) Інжынерна-тэхнічнага цэнтра Маскоўскай дзяржаўнай геолагаразведачнай акадэміі, якія вельмі паспяхова правялі пошукава-рэкагнасцыровачныя работы, у выніку якіх былі выяўлены перспектыўныя праяўленні і паўсюднае пляцовачнае распаўсюджанне залатаноснасці, якая мае ў многіх месцах прамысловае значэнне. Крыху золата было знойдзена, але да гэтага часу перад геолагамі была пастаўлена новая ўмова: работы будуць працягнуты, калі ў канцы сезона яны прадставяць ужо унцыю золата. Відаць, гэта давала магчымасць зацікавіць беларускім золатам банкі. Толькі напрыканцы сезона, калі ўжо пачаліся замаразкі і пайшоў снег, геолагі пачалі абследваць драбільна-сартавальны завод у Заслаўі, дзе можна было атрымаць патрэбную пробу. Прамываць яе давялося ў лужыне ля цэха пад саркастычныя ўхмылкі і жарты мясцовых рабочых, якія змяніліся адкрытымі ад здзіўлення ратамі, калі на дне латкоў засталіся залатыя палоскі. Аднак гэтая лужына неўзабаве замерзла зусім, і давялося перабрацца ў другую, дзе ў брудным балоце і была атрымана першая ў гісторыі рэспублікі касавая партыя беларускага рассыпнога золата.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# КАЛІ ПЕСНЯ ЖЫВЕ БЕЛАРУСА — БУДЗЕ ЖЫЦЬ БЕЛАРУСКІ НАРОД...

23 лістапада мінулага года споўнілася 125 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Тэраўскага — выдатнага хормайстра, кампазітара і фалькларыста. Яго імя мае вялікае значэнне для гісторыі беларускай музыкі. Ён справядліва займае месца заснавальніка беларускай прафесійнай музыкі і з'яўляецца творцам нацыянальнага музычнага кірунку.

Тэраўскі жыў у складаны перыяд, на зломе часу, і ўсе бурныя і драматычныя падзеі адбіліся і на яго лёсе — пакручастым і трагічным.

Паспрабуем на аснове дакументаў, успамінаў сучаснікаў узнавіць гэты лёс, паказаць адметнасць і незвычайнасць асобы вялікага кампазітара і дырыжора.

Уладзімір Васільевіч Тэраўскі нарадзіўся 11 (23) лістапада 1871 года ў мястэчку Раманава (цяпер вёска Леніна) Слуцкага павета ў сям'і праваслаўнага святара. Вучыўся спачатку ў Слуцкім духоўным вучылішчы, потым у Мінскай семінарыі. Музычныя здольнасці яго выявіліся рана і развіваліся пад уплывам беларускага фальклору, старадаўняй міфалогіі, казак, народнай музыкі. З дзяцінства захоплены музыкай і спевамі, Тэраўскі, магчыма, марыў аб музычнай асвеце, але набыць яе не ўдалося. Неабходныя музычныя веды здабываў самаадукацыяй і шматгадовай практыкай. Ужо з 16—17 гадоў ён дырыжыраваў хорамі. Гэта былі аматарскія і школьныя хоры.

(Працяг на 6-й стар.).

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Рака Пціч.

Фота Віктара СТАВЕРА.

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР

### У БЕЛАРУСІ АКРЭДЫТАВАНЫ ПАСОЛ КАНАДЫ



**Свае вярыцельныя граматы Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку ўручыла Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Канады Эн Ліхі. Пані Ліхі нарадзілася ў 1952 годзе ў канадскім горадзе Квебек. Мае ступені бакалаўра мастацтва і магістра эканомікі, валодае нямецкай, рускай мовамі.**

**У 1996 годзе яна назначана канадскім паслом у Расіі. Такім чынам, Эн Ліхі будзе выконваць свае абавязкі ў Беларусі па сумяшчальніцтву, бо апрача Расіі, з'яўляецца таксама паслом Канады ў Арменіі і ва Узбекістане.**

**НА ЗДЫМКУ: у час цырымоніі.**

ПАЎНОЧНЫ НАКІРУНАК

### ДНІ БЕЛАРУСІ Ў МУРМАНСКУ

**"Сувязі Беларусі з Мурманскай вобласцю становяцца ўсё больш моцнымі, і ў свой новы прыезд да вас мы павінны дагаварыцца аб многім", — так заявіў 12 лютага пасля прыбыцця ў аэрапорт Мурмашы, што ў Мурманскай вобласці, выконваючы абавязкі прэм'ер-міністра нашай рэспублікі Сяргей Лінг.**

**Узначаленая ім афіцыйная дэлегацыя Беларусі адправілася ў гэты паўночны рэгіён Расіі для ўдзелу ў Днях эканомікі і культуры нашай краіны. Гасцей у аэрапорце сустрэлі хлебам-соллю прадстаўнікі адміністрацыі Мурманска, іншыя афіцыйныя асобы.**

**У саставе беларускай дэлегацыі — кіраўнікі шэрагу міністэрстваў і ведамстваў, прадпрыемстваў краіны. Сюды прыбылі таксама прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, сярод якіх — вядомыя кампазітары Ігар Лучанок і Леанід Захлеўны, майстры музычнай сцэны Іван Краснадубскі, Алег Цівуноў, Наталля Гайда, Аляксей Ісаеў, Святлана Сусевіч, ансамблі "Свята", "Бяседа" і іншыя.**

**У першы дзень беларуская дэлегацыя ўсклала вянкі да помніка Кірылу і Мяфодзію, правяла перагаворы з першым намеснікам кіраўніка адміністрацыі вобласці Юрыем Мясніковым. А ў Лядовым палацы госці пабывалі на выставе "Беларусь-97", дзе прадстаўлена прадукцыя звыш ста нашых экспанентаў. Вечарам адбылося афіцыйнае адкрыццё Дзён Беларусі ў Мурманскай вобласці, якое закончылася гала-канцэртам майстроў мастацтваў нашай краіны.**

ПЕРШАЯ ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

### АДКРЫТАСЦЬ І АБ'ЕКТЫЎНАСЦЬ

**Адносіны з прэсай у далейшым будуць грунтавацца на адкрытасці, аб'ектыўнасці і супрацоўніцтве, заявіў назначаны на пасаду намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Іван Пашкевіч на сустрэчы з журналістамі. Пашкевіч падкрэсліў таксама, што час канфрантацыі ў грамадстве мінуў з прыняццем на ўсенародным рэферэндуме новай рэдакцыі Канстытуцыі краіны. Цяпер усім нам, грамадзянам Беларусі, трэба будзе салідарна ўмацоўваць дзяржаўнасць і працаваць на працвітанне рэспублікі.**

**На сваёй першай прэс-канферэнцыі Пашкевіч акрэсліў кола сваіх службовых абавязкаў. Сярод іх — фарміраванне дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі, распаўсюджванне ўшыр і ўглыб беларускай мовы і нацыянальнай культуры, наладжванне цывілізаваных адносінаў з рэлігійнымі арганізацыямі... Аднак прыярытэтнай, паводле яго слоў, з'яўляецца работа са сродкамі масавай інфармацыі.**

*"Сутнасць нашай знешняй палітыкі нязменная: мы аддаём перавагу дружбе і ўзаемавыгаднаму супрацоўніцтву, а не канфрантацыі. Глыбока перакананы: любыя праблемы трэба вырашаць разам, а не за кошт адзін аднаго.*

*Непарушным прынцыпам нашай знешняй палітыкі з'яўляецца самастойнасць. Мы безумоўна прызнаём гэта права за іншымі дзяржавамі. Хацелі б, каб ніхто не аспрэчваў і наша права самастойна вызначаць знешнепалітычныя прыярытэты.*

*Знешняя палітыка Беларусі была і застаецца шматвектарнай.*

*Я веру, што складанасці ў адносінах з некаторымі дзяржавамі Захаду і міжнароднымі арганізацыямі маюць часовы характар і абумоўлены перш за ўсё недахопам у іх праўдзівай інфармацыі аб развіцці падзей у нашай краіне.*

*Некалькі дзён таму з рэспублікі адбыла місія Еўрасаюза, якая павінна прадставіць гэтай аўтарытэтнай арганізацыі даклад аб становішчы ў Беларусі.*

*Нам няма чаго ўтойваць і няма чаго саромецца. Таму яе члены атрымалі доступ да ўсёй неабходнай інфармацыі, сустракаліся як з адказнымі дзяржаўнымі чыноўнікамі, так і з тымі, хто называе сябе апазіцыяй. Адным словам, для паспяховай работы місіі былі створаны ўсе ўмовы.*

*Павінен вам прама сказаць: я незадаволены дзейнасцю папярэдняга кіраўніцтва Міністэрства замежных спраў. Спадзяюся, новы міністр і яго каманда зробяць неабходныя вывады і наша палітыка на заходнім напрамку стане па-добраму агрэсіўнай і рэзультатыўнай.*

*Усё ўзрастаючую вастрыню для інтарэсаў нашай краіны набывае выхад НАТО на межы Беларусі. Мы не збіраемся ставіць пад сумненне права іншых дзяржаў уступаць або не ўступаць у гэты ваенна-палітычны саюз, аднак хочам, каб пры вырашэнні пытання аб расшырэнні НАТО на Усход былі ўлічаны і нашы аргументы. Спроба не заўважыць Беларусь можа прывесці да сур'ёзных выдаткаў.*

*Колькі разоў беларуская зямля станавілася полем схваткі розных дзяржаў і іх саюзаў! А з расшырэннем НАТО мы зноў аказваемся паміж молатам і кавадлам.*

*Наша пазіцыя нязменная: абгрунтаваных прычын для расшырэння НАТО на Усход няма. Праблемы бяспекі еўрапейскіх дзяржаў павінны вырашацца не за кошт узмацнення блокаў, а за кошт дэмілітарызацыі цэнтра Еўропы і паскарэння агульнаеўрапейскай інтэграцыі".*

***(З выступлення Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКІ на пашыраным пасяджэнні Савета Міністраў Беларусі 11 лютага 1997 года).***

"КАМБІТ-97"




**У Мінску ў выставачным комплексе на вуліцы Янкі Купалы адкрылася выстава "Камбіт-97. Сучасныя тэхналогіі ў паліграфіі". 110 фірм з 14 краін разгарнулі тут свае экспазіцыі і дэманструюць самую разнастайную паліграфічную тэхніку.**

**НА ЗДЫМКУ: каля экспазіцыі друкаванай прадукцыі Беларусі.**

ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ СТРАХІ

### «НЕЛЬГА ВЫКЛЮЧЫЦЬ»

**Магчымасць узнікнення самаадвольнай ланцуговай рэакцыі (СЛР) у "саркафагу" (аб'ект "Укрыццё" над 4-м энергаблокам Чарнобыльскай АЭС) "выключыць нельга", заявіў супрацоўнік міжнароднага навукова-тэхнічнага цэнтра "Укрыццё" Уладзімір Шчарбіна.**

**Ён выступіў на навукова-практычнай канферэнцыі "Навука. Чарнобыль-96", якая праходзіць у Кіеве.**

**У той жа час, адзначыў У. Шчарбіна, СЛР не прадугледжвае ядзернага выбуху, а можа прывесці да разагрэву палівараўтрымліваючых мас і лакальнага радыеактыўнага выкіду.**

**Паводле ацэнак спецыялістаў міжнароднага навукова-тэхнічнага цэнтра "Укрыццё", у "саркафагу" засталося каля 95 працэнтаў паліва, якое ўтрымлівалася ў ім на момант выбуху на АЭС 26 красавіка 1986 года, што складае каля 200 тон апрамененага і ядзернанебяспечнага паліва.**

ВЫСТАВЫ



**"Матчын ручнік" — так называецца выстава, падрыхтаваная Мінскім абласным цэнтрам народнай творчасці, якая працавала ў зале бібліятэкі імя А. Пушкіна.**

**Спакон веку ў Беларусі вялікае значэнне надавалася ручнікам у розных абрадах і рытуалах. На ручнік укладвалі нованароджанага, яго шырока скарыстоўвалі ў вясельным абрадзе, не абыходзілася без яго пры пахаванні і памінальных рытуалах. Вышытымі ручнікамі ўпрыгожвалі іконы, фатаграфіі блізкіх людзей, прыдарожныя крыжы. А здарыцца ў вёсцы эпідэмія, падзеж жывёлы, засуха — усе разам на працягу дня ткалі спецыяльны ручнік, які абносілі вакол сяла, праганялі пад ім хатнюю жывёлу.**

**Многія з гэтых традыцый і цяпер жывыя ў некаторых рэгіёнах. Па ініцыятыве Інстытута праблем культуры ў рэспубліцы ажыццяўляецца праграма вывучэння народных традыцый і адраджэння аднаго з самых значных элементаў культуры — ручніка. І першы крок у гэтым — экспазіцыя "Матчын ручнік".**

**НА ЗДЫМКУ: знаёмства з выставай.**

АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ

БІБЛІЯТЭКУ падручнікаў кітайскай мовы падараваў вучням 103-й мінскай гімназіі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі Чжао Сідзі. Дагэтуль беларускія гімназісты вывучалі кітайскую мову на слых.

ТОЛЬКІ за студзень 1997 года на беларускай граніцы было затрымана 300 парушальнікаў, адабрана 4 адзінкі агнястрэльнай зброі і кантрабанда на агульную суму каля 4 мільярдаў рублёў.

ЖЫХАР вёскі Ракітна Лунінецкага раёна Іван Ванюк, можна сказаць, паляўнічы з пялёнак. Яго "спецыялізацыя" — ваўкі. Нядаўна ён высачыў і застрэліў яшчэ двух драпежнікаў. Цяпер на яго паляўнічым рахунку — 50 ваўкоў.

7 ЛЮТАГА ў зале Віцебскага абласнога суда вызвалены з-пад варты паэт Славамір Адамовіч, які знаходзіцца ў следчым ізалятары. Судовая калегія пад старшынствам Леаніда Гурко задаволіла чарговае хадайніцтва адваката Гары Паганяйлы аб змяненні меры стрымання і вызвалення паэта з-пад варты. У якасці новай меры стрымання з падсуднага ўзята падпіска аб нявыездзе.

У ПАРАЎНАННІ з 1995 годам аб'ём валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі ў 1996 годзе павялічыўся на 2,5 працэнта, на 5 працэнтаў больш сабрана збожжа. Але з 2 000 калгасаў і саўгасаў 400 закончылі леташні год са стратамі і адмоўнай рэнтабельнасцю.

У 1996 ГОДЗЕ Беларусь атрымала 14,3 мільярда кубічных метраў расійскага прыроднага газу. Доўг за газаспажыванне на пачатак 1997 года складаў больш за 3,5 трыльёна рублёў.

КОЛЬКАСЦЬ зарэгістраваных беспрацоўных у Беларусі на 1 лютага дасягнула 185 тысяч, а ўзровень беспрацоўя склаў 3,32 працэнта да ліку працаздольнага насельніцтва.

У МАЛАРЫЦЕ Брэсцкай вобласці можна купіць толькі дзве буханкі хлеба, прад'явіўшы беларускі пашпарт. Такія меры прыняты ў сувязі з масавым вывазам хлеба на Украіну.

ХУТКАЯ «ГАЗЕЛЬ»



**У канцы студзеня віцебскія пажарныя-выратавальнікі атрымалі аўтамабіль хуткага рэагавання, які дапаможа ім вырашаць экстранныя праблемы дапамогі. Стварылі яго канструктары Віцебскага тэлезавода на базе вядомага мікрааўтобуса "Газель", які абсталяваны спецыяльнай тэхнікай.**

**НА ЗДЫМКУ: майстры-выратавальнікі Леанід НІКІЦЕНКА, Аляксандр ПОЛАЎЦАЎ, Сяргей КАВАЛЁЎ, Анатоль КЫСАЎ, Сяргей АЛЕНІКАЎ і новы аўтамабіль.**

## ПЕРШЫ ВЫПУСК



**У гэтым годзе ў Мінскім вышэйшым лётна-тэхнічным каледжы адбудзецца першы ў Беларусі выпуск маладых дыспетчараў кіравання паветраным рухам. Раней падобных спецыялістаў у нашай рэспубліцы не рыхтавалі. Цяпер іх навучаюць у Мінскім авіяцыйна-тэхнічным каледжы, пераўтвораным у вышэйшую навучальную ўстанову. Але падрыхтаваць дыспетчараў немагчыма без спецыяльнага трэнажорнага цэнтра. Увасоблена ідэя ў жыццё спецыялістамі навукова-вытворчага аб'яднання "Агат", сумеснымі намаганнямі каледжа і служб грамадзянскай авіяцыі.**

**Як расказвае адзін з яго стваральнікаў начальнік СКБ-2 Юрый Масіенка, гэты трэнажорны цэнтр адпавядае, а па некаторых параметрах перавышае замежныя аналагі. І створаны ў асноўным на базе тэхнічных сродкаў айчыннай вытворчасці — персанальныя ЭВМ Мінскага завода вылічальнай тэхнікі і маніторы віцебскага канструктарскага бюро "Дысплей".**

**Дыспетчарскі вучэбны трэнажор дазваляе ствараць імітацыйныя мадэлі палётаў самалётаў у паветранай прасторы ўсёй Рэспублікі Беларусь і ў зонах рулення, старту і падыходу да аэрапортаў Мінска, Мінск-2, Гомеля, Брэста і Віцебска з рознай ступенню складанасці і інтэнсіўнасці палётаў.**

**На сёння спецыялістамі "Агата" сумесна з рознымі службамі авіяцыйнага камітэта, Дзяржкамгідраметам і іншымі прадпрыемствамі рэспублікі распрацавана Нацыянальная праграма мадэрнізацыі сістэмы арганізацыі паветранага руху. Рэалізацыя яе дазволіць падняць на ўзровень міжнародных стандартаў аэранавігацыйнае абслугоўванне і эканамічную эфектыўнасць палётаў у паветранай прасторы Рэспублікі Беларусь самалётаў нацыянальных і замежных авіякампаній.**

**НА ЗДЫМКАХ: курсант трэцяга курса авіяцыйнага каледжа Сяргей БОНДАРАЎ; ідуць заняткі будучых дыспетчараў кіравання паветраным рухам на дыспетчарскім вучэбным трэнажоры ў Мінскім дзяржаўным вышэйшым лётна-тэхнічным каледжы.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**



# НАША ЗОЛАТА: МІФЫ І РЭАЛЬНАСЦЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Выяўлена яно было ў 194 з 223 абследаваных кар'ераў, у больш чым 600 пробах з 790. Утрыманне на пробу ад 1 да 200 знакаў, у пробах з 25 кар'ераў — навескі масай ад 0,3 да 1,5 міліграма. У золаце сустракаюцца ўключэнні кварцу і галеніту, колер яго ў асноўным залаціста-жоўты, але сустракаюцца залацінкі з зеленаватым і чырванаватым адценнямі.

Такім чынам, золата ў Беларусі было знойдзена, прафесіяналы далі заключэнне, што яго "здабыча цалкам рэальная, нескладаная і эканамічна выгадная...", а таксама, што "атрыманне золата на Заслаўскім драбільна-сартавальным заводзе і яшчэ на двух аналагічных заводах можна пачынаць неадкладна".

Аднак усё аказалася зусім не так проста. Справа ў тым, што беларускае золата, гаворачы мовай прафесіяналаў, вельмі "тонкае", іншымі словамі, дробнае. Памер залацінак пачынаецца ад ста мікрон, і "злавіць" іх адпаведна вельмі складана.

Праблема "тонкага" золата сёння стаіць не толькі перад Беларуссю. Ёю актыўна займаюцца практычна ўсе золатаздабываючыя прадпрыемствы свету. У Расіі да гэтага часу здабыча золата вялася ў асноўным на россыпных радовішчах, дзе высакародны метал здабываецца з памерам залацін пачынаючы ад паўміліметра. Каэфіцыент здабывання такога золата складае прыкладна 70 працэнтаў, значыць 30 працэнтаў каштоўнага металу ідзе ў страты. А калі памер залацінак ляжыць у класе ніжэй паўміліметра, то страты даходзяць да васьмідзесяці працэнтаў. У вучоных ёсць даныя, згодна з якімі колькасць гравітуемага, гэта значыць буйнога золата з памерам залацінак вышэй паўміліметра прыкладна такое ж, як і "тонкага". Толькі буйное золата сёння здабываць можна, а дробнае пакуль не навучыліся. Беларускае золата адносіцца якраз да гэтага класа. На Захадзе праблемай "тонкага" золата займаюцца больш інтэнсіўна і адпаведна дабіліся вялікіх вынікаў. Ужо сёння распрацаваны і шырока прымяняюцца ўстаноўкі па здабыванню "тонкага" золата, такія, як "Нельсан", што распрацаваны і паспяхова прымяняецца ў Канадзе. Так што ёсць цалкам рэальная надзея, што праблема будзе вырашана. Зноў жа, спецыяльна перапрацоўваць пясок дзеля здабычы золата — справа бессэнсоўная, але здабываць яго адначасова можа быць вельмі выгадна, тым больш, што ў Беларусі ў месцах перспектыўных праяўленняў знаходзяцца гіганцкія пясчана-гравійныя кар'еры, дзе здабываюцца пясок, гравій, шчэбень. Такім чынам, ёсць рэальная магчымасць, вырашыўшы тэхнічныя пытанні, без стварэння спецыяльных вытворчасцей ва ўжо існуючую схему перапрацоўкі пароды ўключаць яшчэ адным звяном устаноўкі па здабыванню "тонкага" золата. Што тычыцца ўтрымання каштоўнага металу, то сёння спецыялісты ўпэўнена гавораць, што прыкладная яго канцэнтрацыя ў падрыхтаванай пясчана-гравійнай масе складае 0,1 грама на куб пароды, якая перапрацоўваецца.

Пясчана-гравійныя кар'еры, што знаходзяцца ў Беларусі, у час буму будаўнічай прамысловасці перапрацоўвалі па 20 тысяч кубоў першаснай пароды ў суткі. Залатаноснага канцэнтрату ў гэтым выпадку ўтваралася прыкладна адна-дзве тысячы кубоў, што азначае сто грамаў здабычы золата на адным кар'еры за суткі. Галоўная праблема ў тым, каб навучыцца золата здабываць, а ўжо аб'ём здабывання цалкам залежыць ад магутнасці кар'ера. Методыка здабывання золата даўно адпрацавана, і сёння можна гаварыць, што ў Беларусі тэарэтычна маюцца ўмовы, каб пачаць яго здабываць.

Закончыць жа артыкул хочацца вытрымкай з матэрыяла, напісанага першаадкрывальнікамі беларускага золата геолагамі Мікалаем Лук'яненкам і Вадзімам Калпаковым: "У лістападзе (1991 года) мы выехалі абследаваць апошні аб'ект. Насустрач па дарозе цягнуліся самазвалы. Мінут за дваццаць мы налічылі каля сарака, і ўсе яны везлі пясчана-гравійную сумесь, каб разам з ёю — цяпер мы гэта дакладна ведалі — назаўсёды звaліць у які-небудзь дарожны насып і золата. Так што дарогі Беларусі ў самым прамым сэнсе гэтага слова залатыя. Калі арыентавацца на даныя 1991 года, то ў Беларусі за гэты год было здабыта 22 726 тысяч кубічных метраў пясчана-гравійнай сумесі, а фонавае ўтрыманне ў ёй золата прыкладна 50 міліграмаў на кубічны метр, а гэта значыць, што толькі за адзін год беззваротна страчана да паўтары тоны золата, не гаворачы ўжо пра значна большую колькасць іншых каштоўных мінералаў". Падлічыць страчанае пасля 1991 года зможа любы...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## СУПРАЦОЎНІЦТВА

# НАВОШТА КІПРУ БЕЛАРУСКІ ГАНДЛЁВЫ ДОМ

**У апошнія гады значна пашырылася супрацоўніцтва Беларусі і Кіпра ў сферы гандлёвых адносін і турызму. Нядаўна зроблены новы крок у гэтым напрамку: на Кіпры адкрыты беларуска-кіпрскі гандлёвы дом пад назвай "КОМА Гандлёвы дом Кіпр — Беларусь". Упершыню пытанне аб яго адкрыцці абмяркоўвалася ў час перагавораў членаў дэлегацыі Беларускай гандлёва-прамысловай палаты на чале з прэзідэнтам В. Лесуном у гандлёва-прамысловай палаце Кіпра летам 1996 года. Адразу ж да работы па стварэнню гандлёвага дома падключылася Міністэрства знешніх эканамічных сувязей. З беларускага боку вызначылася больш дзесятка заснавальнікаў, сярод якіх дзяржаўныя прадпрыемствы, арганізацыі і прыватныя фірмы.**

**Беларускі бок будзе мець 50 працэнтаў акцый. Кіпрскі — бясплатна прадастаўляе памяшканне ў будынку гандлёвага цэнтра ў Лімасоле, мэблю, аргтэхніку. Плануецца таксама арганізацыя невялікай дэманстрацыйнай залы, дзе за ўмераную плату беларускія прадпрыемствы і фірмы змогуць выстаўляць узоры сваёй прадукцыі, рэкламныя матэрыялы. З прэзідэнтам "КОМА Гандлёвы дом Кіпр — Беларусь" спадаром Космасам КУРЫСАМ гутараць аглядальнікі "Нацыянальнай эканамічнай газеты" Валерыя ГЕРАСІМАВА і Ірына ЖУКАВА.**

*— Спадар Космас, якія задачы ў сферы развіцця гандлёвых адносін паміж дзвюма краінамі дапаможа вырашыць стварэнне беларуска-кіпрскага Гандлёвага дому?*

— Наша асноўная мэта — садзейнічаць продажу на Кіпры прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў. Але мы не збіраемся гэтым абмяжоўвацца. Кіпр мае добрую інфраструктуру і даўнія сувязі з краінамі Блізкага Усходу і Паўночнай Афрыкі. Таму ёсць сэнс ставіць перад сабой больш шырокую і цяжкую задачу — стаць пасрэднікам у выхадзе прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў на рынкі гэтых краін. Ужо дасягнута папярэдняя дамоўленасць з адной з грэчаскіх фірм аб адкрыцці філіяла Гандлёвага дому ў Грэцыі.

*— Вы мяркуеце, што наша прадукцыя знойдзе там збыт?*

— Вядома, трэба ўлічваць рэальныя магчымасці беларускіх прадпрыемстваў і тое, што ўзровень якасці вашай прадукцыі, на жаль, пакуль недастатковы. Канкурыраваць на заходніх рынках з вядучымі замежнымі фірмамі вам вельмі і вельмі складана. А вось у рэгіёне, у якім мы маем намер працаваць у рамках Гандлёвага дому, пэўныя перспектывы праглядваюцца. У краінах Блізкага Усходу якраз і можна прадаваць беларускія тавары. Магу прывесці і канкрэтныя прыклады: мы ўстанавілі, што, напрыклад, патрэбнасці ў трансфарматарах Кіпр мог бы поўнасцю задавальняць за кошт паставак іх з Беларусі. Цяпер пачалі паступаць заказы на шыны, ёсць заяўка на беларускі крышталь, піяніна, фарфоравы посуд. Ёсць цікавасць да вашых гітар. Мы яшчэ не пачалі працаваць у поўным аб'ёме, рэкламы было вельмі мала, а ўжо з'явіліся першыя кліенты. Упэўнены: пасля таго як пачнецца шырокая рэкламная кампанія, работа пойдзе.

*— Тое, што прадукцыя многіх беларускіх прадпрыемстваў пакуль саступае па якасці замежным аналагам, добра вядома. А ў чым вы бачыце яе вартасці, якія дазваляюць выходзіць на міжземнаморскія рынкі?*

— Гэта перш за ўсё адносна нізкія цэны з-за невысокай заработнай платы ў Беларусі.

*— Але такая перавага, мусіць, часовая?..*

— Я ўпэўнены, што трэба стымуляваць экспарт, уводзіць для экспарцёраў ільготы. На Кіпры, напрыклад, з такіх прадпрыемстваў на пэўны час здымаюцца ўсе падаткі. У любой падатковай сістэме павінны быць выключэнні, тым больш, калі краіна мае вострую патрэбу ў прытоку замежнай валюты. Нельга не адзначыць і такі факт: вашы прадпрыемствы па-ранейшаму занадта мала ўвагі ўдзяляюць маркетынгу. Я б сказаў нават больш жорстка: у многіх кампаній маркетынг адсутнічае ўвогуле. Гэта вельмі сумна. Фірма павінна выглядаць трывала і мець добрага гаспадара.

Беларуска-кіпрскі гандлёвы дом на востраве знаходзіцца ў вельмі прэстыжным месцы самага буйнога горада Лімасола. Выдатны будынак з выставачным павільёнам — адразу відаць, што сур'ёзная фірма. У бізнесе гэта адыгрывае вельмі важную ролю.

*— А як наконт работы ў адказ у Мінску?*

— Акрамя турыстычных фірм тут дзейнічаюць наш кітайскі рэстаран у гасцініцы "Юбілейная", піцэрыя "Піца кіпрыяна". Цяпер актыўна вядзецца юрыдычнае афармленне ўдзелу беларускага боку ў Гандлёвым доме, рыхтуемся да адкрыцця тут філіяла. Плануем праз "наш" дом пастаўляць і прадаваць у Беларусі традыцыйную кіпрскую прадукцыю: сокі, віны, каньякі. Мне неяк гаварылі, што нашы сокі дарагія. Мусіць, так яно і ёсць, але затое якая якасць! Ёсць у нас у планах і рэалізацыя іншых праектаў, скажам, будаўніцтва элітнага жылога дома і г. д.

*— Калі вы ўкладваеце ў Беларусь пэўныя інвестыцыі, то, напэўна, верыце, як гаворыцца, у светлую будучыню нашай краіны?*

— Беларусь, як і Кіпр, — невялікая краіна, і яе эканоміку не так ужо цяжка аднавіць. Калі дзяржава знаходзіцца ў такім становішчы, як у вас, выратаваць яе можна перш за ўсё за кошт замежных інвестыцый. А для гэтага патрэбны нармальныя законы і стабільнасць. На Кіпры прыкладна такая ж сітуацыя склалася ў 1974 годзе: эканоміка знаходзілася ў глыбокім крызісе, зарплата была вельмі нізкай, на ўзроўні 60 долараў ЗША. Але пасля прыняцця стымулюючых законаў краіна за досыць кароткі перыяд — 10—15 гадоў — проста змянілася, замежныя інвестыцыі літаральна пабудавалі Кіпр нанава, сярэдняя заработная плата дасягнула 14,5 тысячы долараў у год — гэта ўзровень развітых еўрапейскіх краін. Думаю, падобнае цалкам магло б быць і ў вас.

*— Вы займаецеся бізнесам толькі ў Беларусі?*

— Не. У апошнія гады мы актыўна супрацоўнічаем у сферы гандлю і турызму з Расіяй. Зразумела, Расія — вялікая краіна, значыць, мае значна больш шырокі рынак збыту і сферы прыкладання інвестыцый. Аднак у галіне бізнесу ў Расіі і Беларусі многа агульнага — прыкладна тыя ж праблемы. Толькі да вашай краіны ў мяне асобыя адносіны: я хачу дапамагчы Беларусі, таму што ведаю і люблю яе народ. Я тут вучыўся, скончыў машынабудаўнічы факультэт політэхнічнага інстытута. Невядома, кім бы я стаў, калі б у мяне не было магчымасці атрымаць у вас вышэйшую адукацыю. Мае бацькі простыя людзі, і ўсё, чаго я дасягнуў, гэта вынік уласных намаганняў.

*— Мы ведаем, што і жонка ў вас беларуска...*

— Так...

*— Дзякуй, спадар Космас, за гутарку. Жадаем поспеху.*

## «КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ» (№ 11—12 лістапад—снежань 1996)

**Апошні (№ 11—12) за мінулы год нумар інфармацыйна-аналітычнага і культуралагічнага часопіса "Кантакты і дыялогі", які выдаецца Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў, багаты на значныя і цікавыя матэрыялы, знаёмства з якімі ўражвае тым, што ў шырокім інтэлектуальным свеце добра ведаюць Беларусь і цікавяцца яе культурнымі здабыткамі.**

**Творчасць слыннага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча мае шмат прыхільнікаў у розных краінах. Людзі, якія сустракаліся з ім асабіста, часта рабіліся яго сябрамі, пяшчоту і замілаванасць да цудоўнага пісьменніка і чалавека захоўвалі на ўсё жыццё. З любоўю напісаў свае заметкі паляк Здзіслаў Нядзеля, згадваючы сустрэчы з У. Караткевічам у Кракаве і Мінску.**

**Валянціна Шчадрына, перакладчыца беларускай літаратуры на рускую мову, успамінае, як перакладала "Каласы пад сярпом тваім". У перакладзе В. Шчадрыной выйшлі і іншыя творы У. Караткевіча. Згадваючы тыя часы, перакладчыца зазначае, што Уладзімір Караткевіч быў адданым сябрам і гэткім жа адданым аўтарам.**

**Пра дарогу беларускай літаратуры ў Літву расказвае Альма Лапінскене.**

**У рубрыцы "Беларускае замежжа" адным з найцікавейшых уяўляецца нам артыкул В. Шыманец пра дзейнасць беларусаў у Францыі. Яго мы друкуем ніжэй.**

**У канцы мінулага года "Голас Радзімы" пісаў, што Скарынаўскі цэнтр і Беларускую акадэмію музыкі наведаў Кароль Залускі, прамы нашчадак Міхала Клеафаса Агінскага. Падарожжа гэта мела прыемны працяг. На імя Адама Мальдзіса з Англіі ад пасла Беларусі ў Вялікабрытаніі Уладзіміра Шчаснага было атрымана пісьмо, дзе гаворыцца, што К. Залускі свой візіт у нашу краіну назваў "фантастычным". У сваёй кнізе ён напіша, што ў Беларусі з павагай ставяцца да Агінскіх. З размовы з Залускім можна меркаваць, што свой ганарар за кнігу на рускай ці беларускай мове ён гатовы перадаць на рэстаўрацыю сядзібы ў Залессі.**

**Знаёмячыся з Хронікай беларусазнаўчага жыцця, дзівішся, якое яно разнастайнае, як і па-за межамі Бацькаўшчыны беларусы шануюць сваю мову, культуру, гісторыю.**

# НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЯ І ІНФАРМАЦЫЙНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ БЕЛАРУСАЎ У ФРАНЦЫІ

Мне хацелася б выказацца наконт беларускай дыяспары ў Францыі. У першую чаргу варта расказаць пра нашу "паўбеларускую" і "паўфранцузскую" дыяспару, пра свае ўласныя дзеянні і дзеянні тых людзей, якія там працуюць. Я думаю, што гэты феномен тут невядомы. Розныя пакаленні эмігрантаў-беларусаў у Францыі часта працуюць разам, але, як ні парадаксальна, фактычна не маюць агульных мэтаў.

Першае пакаленне, якое эмігрыравала ў Францыю яшчэ ў часы другой сусветнай вайны, спачатку працягвала жыць, як у роднай Беларусі, бо не ведала французскай культуры, мовы, мясцовых традыцый, звычаяў. Гэтае пакаленне эмігрантаў было даволі моцна палітызавана і звычайна працягвала весці барацьбу з камунізмам, маючы надзею вярнуцца ў "згубленую краіну".

Эмігранты другога пакалення бачылі перад сабой адну агульную мэту: набыць хоць нейкую прафесію і стаць сапраўднымі грамадзянамі Францыі. Але яны не заўсёды мелі магчымасць атрымаць належную адукацыю. Неспрыяльныя абставіны часам вымушалі іх адракацца ад сваёй беларускасці, дзеля таго каб больш паспяхова інтэграваца ў французскую рэчаіснасць. Многія выхадцы з Беларусі ўступалі ў шлюб з французамі, прытым адмаўляліся выхоўваць сваіх дзяцей у беларускім духу. Таму гэтае пакаленне не магло паспяхова развіваць беларускую культуру ў Францыі. Але тут вінаватыя не яны самі, а, хутчэй за ўсё, іх уласны лёс, складаныя абставіны паўсядзённага жыцця.

І калі былая сцяна паміж нашымі народамі ўпала, у беларусаў-эмігрантаў другога пакалення зноў нарадзілася надзея хоць у нечым дапамагаць роднай Беларусі. Напрыклад, мой бацька прыязджаў у Беларусь і працаваў тут амаль тры гады.

Аднак самі французы тады яшчэ не цікавіліся такой краінай, як Беларусь. Па-першае, ніхто не ведаў Беларусь. Па-другое, распад Савецкага Саюза ўздзейнічаў на французаў як псіхалагічны шок. Раней лічылася, што ў СССР жылі толькі расійцы. І калі пачалі ўзнікаць розныя самастойныя краіны, французы са здзіўленнем даведаліся, што ў свеце існуюць Беларусь, Украіна, Малдова, Літва і г. д.

Французская прэса, вядома, пісала пра беларускую палітычную і эканамічную рэінтэграцыю з Расіяй. Першы аргумент быў такі: Беларусь не мае гісторыі і спецыфічнай культуры. Другі аргумент: няма беларускай мовы. Тады Элен Карэр д'Анкос, вядомы саветолаг, нас нават вучыла, што Сталін быў лінгвістам і што нібыта ён стварыў беларускую мову.

Фактычна маладое пакаленне ніколі не магло адкрыта заявіць, што яно цікавіцца Бацькаўшчынай сваіх продкаў. Умоўна маладое пакаленне можна было б падзяліць на дзве групы. Першая — тыя, хто не мае ніякіх сувязей з дзядамі з Беларусі, нічога не ведаюць пра беларусаў і нават пытаюцца, ці ёсць наогул Беларусь. Другая група — тыя, хто быў цесна звязаны з дзядамі.

Трэцяе пакаленне зусім не валодае беларускай мовай. Дзяды пакінулі нам толькі тое, што мы можам называць "беларускай марай". Таму гэтае пакаленне жадае вучыцца па-беларуску, жыць сваёй беларускай марай у цяперашнім і будучым часе, стараецца выкарыстоўваць свае матэрыяльныя і інтэлектуальныя рэсурсы для развіцця ведаў і пашырэння інфармацыі пра Беларусь у Францыі.

Мы хочам заўсёды быць аб'ектыўнымі, але ведаем, як гэта складана. Напрыклад, у Францыі, як сапраўдная грамадзянка гэтай краіны, я, натуральна, магу ўдзельнічаць у палітычных акцыях. Але, займаючыся беларускасцю, я больш думаю пра культуру, а не пра палітыку. Хаця нельга сказаць, што палітыка мяне зусім не цікавіць, як нельга гаварыць пра адсутнасць узаемасувязі паміж культурай і палітыкай.

Сярод найбольш актыўных беларусістаў варта адзначыць Бруна Дрвескі, гісторыка па спецыяльнасці. Ён напісаў буклет пад назвай "Беларусь" і шэраг артыкулаў пра Беларусь. Праўда, шмат беларусаў пратэставалі супраць гэтага буклета, які, на іх думку, быў не зусім дасканалы. Але тут нельга забываць, што да гэтай публікацыі ў Францыі практычна нічога не друкавалася на такую тэму. Адзіным выключэннем можна лічыць працу прафесара Рэнэ Мартэля, якая выйшла ў 1929 годзе.

Хачу коратка спыніцца на асобе маладога палітолага Аляксандры Гужон. Чатыры гады таму назад яна пачала цікавіцца беларускімі палітычнымі падзеямі. Збірала матэрыялы, напісала і абараніла дысертацыю на тэму "Зараджэнне і развіццё Беларускага Народнага Фронту". Яна таксама працавала ў французскім пасольстве ў Мінску і ў выніку сумесна з супрацоўнікамі эканамічнага аддзела пасольства напісала кнігу пра эканамічную сітуацыю ў Беларусі. Гэтая кніга нядаўна выдадзена ў Францыі.

Што ж рабіла я асабіста? Я рэжысёр і актрыса. Я прыязджала два разы са сваёй трупай у Мінск. У Акадэміі мастацтваў мы паказалі лялечнае чытанне на французскай мове "Кароль Лір", а ў Лінгвістычным інстытуце чыталі ўрыўкі з Жана дэ ля Фантэна.

Летась у красавіку наша трупа паказала пастаноўку спектакля "Кароль Лір" на французскай мове ў Альтэрнатыўным тэатры. У час дзіцячага фестывалю французскіх школ, які праходзіў у ТЮГу, мы паказалі спектакль на французскай мове па казцы "Спячая прыгажуня". У будучыні мы маем намер працягваць такія сустрэчы і наладзіць тэатральны абмен.

Я прыехала ў Беларусь дзеля таго, каб вывучаць беларускую мову і шукаць матэрыялы па гісторыі беларускага тэатра. На гэтую работу мне дала стыпендыю французская дзяржава. Я першая ў гісторыі Францыі стыпендыятка, каму дзяржава плаціць грошы за даследаванне беларускага тэатра.

Мы трое — Аляксандра Гужон, я і Бруна Дрвескі — сустрэліся два гады таму назад у час, калі апошні планаваў стварыць асацыяцыю "Францыя — Беларусь". Мы ўступілі ў гэтую асацыяцыю, а Бруна Дрвескі стаў яе прэзідэнтам. Праз год перад асацыяцыяй паўсталі тэхнічныя праблемы, якія перашкаджалі нам актыўна працаваць, праводзіць запланаваныя мерапрыемствы. Аляксандра Гужон і я вырашылі размежавацца з гэтай структурай, каб стварыць новую асацыяцыю пад назвай "Беларуская перспектыва". Бруна Дрвескі далучыўся да нас і зноў быў выбраны яе прэзідэнтам. Мы вырашылі найперш выпускаць газету пад такой жа назвай. Гэтая газета выходзіць на французскай мове і мае мэту шырока інфармаваць французаў пра Беларусь. Ужо выйшлі два нумары, а трэці з'явіцца ў канцы кастрычніка бягучага года.

"Беларуская перспектыва" таксама дапамагае асацыяцыі "Хаўрус" у арганізацыі "беларускіх дзён", якія неўзабаве будуць праходзіць у Парыжы. Нарэшце, французскае выданне "Armattan" прасіла нас напісаць да сакавіка кнігу пра беларускую мову. Адначасова мы напісалі артыкулы і пачалі перакладаць вершы для газеты "Новая альтэрнатыва".

Наша дыяспара ў Францыі даволі малая. Таму мы не можам разлічваць толькі на яе. І калі з Аляксандрай Гужон мы пачалі займацца беларушчынай, нам было прыемна бачыць, як іншыя дыяспары і нават французы пачалі нам дапамагаць. Яшчэ вельмі прыемна, што сябар Бертран Сане рыхтуе тэатральныя праекты і ўжо іграў караля Ліра ў Мінску. Радуе і тое, што сябар Аляксандры Гужон Франк Гуэрын ужо зняў два кароткія фільмы на беларускія тэмы. Прыемна, калі французскія студэнты пачынаюць прапаноўваць навукоўцам праекты па беларускай тэматыцы. Спачатку гэта было трохі нечакана. А сёння я пытаюся: "Чаму гэта было нечакана, калі беларусы пачалі цікавіцца Беларуссю?" Мы заўсёды былі ўпэўнены, што Беларусь — цікавая краіна. Таму мы, натуральна, змаглі зацікавіць іншых людзей.

Я цяпер ведаю, што Беларусь для нас — гэта канкрэтная краіна, дзе мы маем шмат вельмі цікавых знаёмых. Калі я думаю, што чатыры месяцы назад я не ўмела ні чытаць, ні пісаць, ні размаўляць па-беларуску, калі я думаю, што ў самым Парыжы цяпер я ўжо буду размаўляць з бацькам па-беларуску, перакладаць тэксты, супастаўляць гэты багаты матэрыял, я адчуваю сябе багатай цэласнай натурай. Трэцяе пакаленне ёсць!

**Вірджынія ШЫМАНЕЦ.**

Парыж.

# ТЫМ, ХТО БЯЗВІННА ЗАГІНУЎ

Вядомага нашым чытачам сталага аўтара "Голасу Радзімы" Ігара Кузняцова можам павіншаваць з нештодзённай падзеяй — выйшла ў свет яго чарговая кніга. Называецца яна сімвалічна — "Вяртанне памяці" і прысвячаецца ўсім пакутнікам, якія прайшлі праз пекла сталінскага ГУЛАГа. Пра многіх ахвяр савецкіх канцлагераў пісаў Ігар Кузняцоў у публікацыях, змешчаных у "Голасе Радзімы". Але ў зборніку яны складаюць толькі невялікую частку. У ім сабраны шматлікія дакументальныя артыкулы і нарысы, якія раскрываюць механізм функцыянавання і трагічныя наступствы дзейнасці карных органаў АГПУ—НКУС на тэрыторыі Расіі і Беларусі.

Насілле ў нашым грамадстве было заўсёды, піша аўтар. "Але з 1917 года насілле ў нас набыло новыя якасці. Яно стала асноўным сродкам вырашэння сацыяльных праблем. Спачатку гэта было насілле супраць варожых класаў. Але вельмі хутка яно ператварылася ў насілле супраць апазіцыйна настроеных членаў самой бальшавіцкай партыі. У рэшце рэшт правіла, што пры дапамозе яго можна дасягнуць усяго, стала універсальным, ператварылася ў насілле супраць свайго народа".

Няма, бадай, такой іншай краіны, якая заплаціла б мільёнамі чалавечых жыццяў за ўсталяванне і ўмацаванне новага грамадскага ладу. Але ў тым, што адбылося з намі, вінаваты не знешнія ворагі, а мы самі, сцвярджае слушна І. Кузняцоў. Вінаватыя лідэры, кіраўніцтва краіны, вінаватыя актыўныя выканаўцы, вінаваты і сам народ, які прыняў новы рэжым, прымаў удзел у яго дзеяннях і ўхваляў гэтыя дзеянні.

У кнізе "Вяртанне памяці" сабрана толькі малая частка матэрыялаў пра нашу рэальную гісторыю, тую гісторыю, пра якую мы доўгі час нічога не ведалі ці лічылі за лепшае не ведаць, забыць, гісторыю, ад якой нам не адгарадзіцца.

**В. К.**

## *ШКОЛЬНАЯ «БАТЛЕЙКА»*



**Некалькі гадоў назад у Салігорскай дзіцячай мастацкай школе па ініцыятыве намесніка дырэктара па вучэбнай частцы Ларысы Гадалавай было ўведзена вывучэнне беларускай народнай культуры. Навучэнцы сталі вывучаць беларускі касцюм, народныя гульні, абрады, легенды. А каб тэорыя падмацоўвалася практыкай, было вырашана стварыць школьны тэатр "Батлейка".**

**Выкладчык курса беларускай культуры Ніна Казлова падабрала неабходны для "Батлейкі" рэпертуар, у які ўвайшлі як класічныя батлеечныя спектаклі ("Нараджэнне Хрыстова" і іншыя), так і пастаноўкі на фальклорныя тэмы. Лялькі рабілі ўсёй школай. І вельмі хутка тэатр стаў выступаць як у самой школе, так і ў дзіцячых садах горада, дзіцячым доме, на гарадскіх святах. Школьны тэатр "Батлейка" прыняў удзел у конкурсе "Сям'я і школа" і стаў адным з яго пераможцаў.**

**НА ЗДЫМКУ: удзельнікі школьнага тэатра "Батлейка" Наташа ВАРАБЕЙ і Марына БАТКАЕВА.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

# АСІПОВІЧАМ ХУТКА 125



Гораду Асіповічы, размешчанаму на паўднёвым захадзе Магілёўшчыны, на левым беразе невялічкай ракі Сіняя (прытоку Свіслачы), ля аўтамабільнай дарогі, што звязвае абласны цэнтр са сталіцай Беларусі, хутка споўніцца 125 гадоў.

Афіцыйнай датай яго заснавання лічыцца 17 лістапада 1872 года, калі тут, у глушы Мінскай губерні, сярод лясоў і балот, была пабудавана станцыя Лібава-Роменскай чыгункі з пяццю драўлянымі хатамі для абслугоўваючага персаналу. А назву станцыя атрымала ад непадалёк размешчанай вёскі Асіповічы.

У 1889 годзе каля станцыі з'явіўся лесапільны завод, потым яшчэ адзін, млын, некалькі жылых дамоў. І хутка пасля ўзвядзення ўпраўленнем чыгункі ў Асіповічах шпала-прапітачнага завода, што паспрыяла прытоку сюды дадатковай рабочай сілы, прыстанцыйны пасёлак ператварыўся ў гарадскі.

У час Вялікай Айчыннай вайны горад па сутнасці быў ператвораны ў руіны, але ўжо да 1951 года ўсе прадпрыемствы дасягнулі даваеннага ўзроўню і пачалі ўзводзіцца новыя. Закладваецца завод аўтамабільных агрэгатаў, працягвае будавацца кардонна-рубероідавы завод, камбінат хлебапрадуктаў, аўтабаза, майстэрні "Сельгастэхнікі", цэх безалкагольных напіткаў і г. д.

Значныя змяненні ў сённяшнім жыцці не маглі прайсці міма асіпаўчан. Пачалі ўзнікаць кааператывы, малыя, акцыянерныя і сумесныя прадпрыемствы, таварыствы з абмежаванай адказнасцю і іншыя — іх сёння ў горадзе ўжо з паўсотні. Не здаюцца і дзяржпрадпрыемствы, якіх у Асіповічах 15. Словам, кожны жыве, як можа, кожны сам шукае менавіта свой шлях, сваё месца ў час уваходжання ў рынак. Горад — гэта той жа жывы чалавек з усімі ягонымі балячкамі, хваробамі ды звычкамі-схільнасцямі. Асіповічы — гэта дабрыня і мужнасць, чысціня і ўтульнасць, памяркоўнасць і цвёрдасць, прыстойнасць і вера ў лепшае. А значыць — жыццё працягваецца!..

**Віталь КУЛАКОЎ.**





**НА ЗДЫМКАХ: адна з вуліц Асіповіч; цэнтр горада; Крыжа-Узвіжанская царква ў Асіповічах.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# АД НЯНАВІСЦІ ДА СПАГАДЫ

У Навагрудскім павеце, як і ў іншых паветах Віленскай губерні, яшчэ напярэдадні паўстання склалася дакладная структура нелегальнай рэвалюцыйнай арганізацыі. Яе кіруючым органам быў павятовы камітэт на чале з камісарам У. Борзабагатым. У склад камітэта ўваходзілі цывільны начальнік, ваенны начальнік, рэферэнты па фінансах, зямельных справах і інш. Тэрыторыя павета падзялялася на акругі, акругі — на прыходы. Кіраўнікі, што ўзначальвалі кожнае падраздзяленне, мелі памочнікаў на выпадак правалу.

У канцы студзеня 1863 года У. Борзабагатага наведаў ваенны начальнік Віленскай губерні Ф. Віславух, які сябраваў з яго братам Іосіфам. Абодва сябры напярэдадні паўстання пакінулі медыцынскі факультэт Кіеўскага універсітэта. Госць на працягу некалькіх дзён знаёміўся з падрыхтоўкай паўстання, вывучаў мясцовасць.

У лютым 1863 года ў Вільні адбыўся пераварот. Групоўка "белых", незадаволеная ўзмацненнем уплыву Кастуся Каліноўскага і яго курсам на ўзброенае паўстанне, захапіла ўладу. Замест ЛПК быў створаны Аддзел кіравання правінцыямі Літвы, які ўзначаліў памешчык Я. Гейштар. Сваім дэкрэтам ад 27 лютага 1863 года "белы" аддзел адмяніў усе паўнамоцтвы і мандаты, што ўручыў ЛПК. Ва ўсе губерні і паветы былі прызначаны новыя камісары для кантролю за дзейнасцю ваенных і цывільных улад.

У Навагрудскім павеце У. Борзабагаты ў якасці камісара таксама не задавальняў "белых". Яго рэвалюцыйныя парыванні, курс на народнае паўстанне палохалі іх. Больш прыдатнай кандыдатурай на гэту пасаду яны палічылі У. Кашыца, які раней выконваў абавязкі цывільнага павятовага начальніка. У сакавіку 1863 года яго запрасілі ў Вільню, дзе тэрмінова сабраліся прыхільнікі "белых". Там ён выступіў супраць узброенага паўстання, адмоўна паставіўся да пытання аб перадачы зямлі сялянам. Адначасова зрабіў хлуслівую заяву пра непадрыхтаванасць Навагрудскага павета да паўстання з-за адсутнасці зброі і пораху. На гэта член Віленскага камітэта А. Яленскі заўважыў, што У. Борзабагаты добры хімік і сам зробіць порах для паўстанцаў.

Вярнуўшыся ў Навагрудак з мандатам камісара павета, К. Кашыц паведаміў пра гэта У. Борзабагатаму і загадаў затрымаць паўстанне да мая. У. Борзабагаты, якога тым жа рашэннем прызначылі цывільным павятовым начальнікам, не згадзіўся зрабіць гэта. З непрыхаваным незадавальненнем, як паказаў пазней следчай камісіі К. Кашыц, ён заявіў: "Я ўжо даўно стрымліваю. У Навагрудку 80 чалавек, якіх далей стрымліваць немагчыма, а ў Слоніме 14 артылерыйскіх афіцэраў толькі чакаюць сігналу; калі адкладваць далей, то тады перастануць мець да мяне давер, ды і я, зрэшты, давер у камітэце". Тады К. Кашыц, імкнучыся любой цаной не дапусціць паўстання ў павеце, паспрабаваў пайсці на хітрасць. У той час з Польшчы праз Пружанскі павет дайшоў да Мінскай губерні атрад пад камандаваннем Р. Рагінскага. К. Кашыц запрапанаваў адправіць усіх жадаючых прыняць удзел у паўстанні ў гэты атрад, які дзейнічаў у ляхавіцкіх лясах. Але У. Борзабагаты разгадаў сапраўдную мэту такой прапановы. Выслухаўшы К. Кашыца, ён з абурэннем сказаў: "Як бачна, вы хочаце, каб зусім не было паўстання ў Навагрудскім павеце".

Уважліва сачыў У. Борзабагаты за ходам падзей. Асабліва яго хвалявала, што палітыку чакання абралі памешчыкі. Насуперак намаганням К. Кашыца У. Борзабагаты і яго прыхільнікі ў павятовым паўстанцкім камітэце прынялі рашэнне аб падрыхтоўцы паўстання. План і праграму баявых дзеянняў распрацаваў С. Серакоўскі, нядаўна прызначаны ваенным начальнікам Віленскай губерні. Па яго разліках, у паўстанні, якое прымяркоўвалася на сакавік і красавік, павінна было прыняць удзел каля 150 чалавек. Месцам фарміравання і знаходжання атрада прызначалася Налібоцкая пушча. Навагрудскі атрад павінен быў, узаемадзейнічаючы з ашмянскім, адцягнуць на сябе ўвагу царскіх войск ад лідскага атрада. Апошні пад камандаваннем Л. Нарбута накіроўваўся ў Гродзенскую губерню для сумесных дзеянняў з мясцовымі атрадамі.

У канцы сакавіка 1863 года С. Серакоўскі выклікаў у Вільню С. Алендскага, былога падпалкоўніка царскай арміі, і прызначыў яго ваенным начальнікам Навагрудскага, Слуцкага і Пінскага паветаў. Яму даручалася ўстанавіць кантакт з кіраўнікамі Навагрудскай арганізацыі і пачаць 3 красавіка ўзброенае паўстанне. Пасля вяртання з Вільні С. Алендскі адразу ж запрасіў у свой маёнтак Косічы, што на Навагрудчыне, У. Борзабагатага і К. Шалевіча, які быў ваенным павятовым начальнікам. У. Борзабагаты прывёз з сабой карту павета. Пры абмеркаванні сітуацыі ён паведаміў, што да паўстання тут гатовы 130 чалавек. Яны добра ўзброены і забяспечаны адзеннем. На гэтай тайнай нарадзе быў распрацаваны дэталёвы план паўстання.

Месцам дыслакацыі будучага атрада была вызначана Налібоцкая пушча. У той час гэта быў вялікі лясны масіў у басейне ракі Нёман і яе правых прытокаў Бярэзіны, Іслачы і Усы. Ён ахопліваў тэрыторыю сучасных Стаўбцоўскага, Валожынскага раёнаў Мінскай і Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. Мноства лясоў, водных перашкод, непраходных балотаў служылі добрай аховай для паўстанцаў. Таму ў перыяд 1863—1864 гадоў у Налібоцкай пушчы дзейнічала некалькі паўстанцкіх атрадаў.

Да месца дыслакацыі навагрудскім паўстанцам прадпісвалася дабірацца дзвюма калонамі. Узброеныя групы паўстанцаў паспяхова дабраліся да Налібок і 7 красавіка за 20 кіламетраў ад мястэчка злучыліся. Толькі што створаны, але яшчэ не навучаны і не абстраляны атрад дагналі карнікі. Жорсткі бой працягваўся 2 гадзіны. Як паведамлялі 7 мая 1863 года варшаўскія "Ведамасці з поля бою", навагрудскі атрад колькасцю 150 чалавек смела прыняў бой з дзвюма ротамі пяхоты. Аднак пад шчыльным агнём карніцкіх карабінаў паўстанцы вымушаны былі адступіць у лес. Страты былі такія: 20 забітых і 10 палонных. Сярод ахвяр быў названы і ксёндз Ф. Лашкевіч. Яго, параненага 7 кулямі, дабілі карнікі.

З рэштак атрада стварылася некалькі груп, якія дзейнічалі ў ваколіцах Дзераўной, Уселюба, Налібок. Неўзабаве яны зноў аб'ядналіся ў Налібоцкай пушчы пад камандаваннем паручнікаВаладзько (Янкі Каваля). Да 22 красавіка ў атрадзе ўжо налічвалася 45 добра ўзброеных паўстанцаў.

У. Борзабагаты некалькі разоў наведваў атрад, клапаціўся пра яго ўзбраенне, забеспячэнне адзеннем і рознымі прыпасамі. Асабліва непакоіў яго недахоп вопытных камандзіраў. У канцы сакавіка М. Клячкоўскі прыслаў з Вільні Вітольда Міладоўскага, інжынера-прапаршчыка рускай арміі, члена рэвалюцыйнай арганізацыі ў Пецярбургу. Ён прыехаў з мандатам у Рутку і быў цёпла прыняты сям'ёй Борзабагатых.

На працягу некалькіх дзён Уладзіслаў Канстанцінавіч знаёміў афіцэра-земляка са становішчам спраў у атрадзе, а затым даручыў брату Антону завезці яго ў Мір. Тут надзейным памочнікам У. Борзабагатага быў мясцовы ўрач Ф. Цвірка. Ён і даставіў В. Міладоўскага да месца дыслакацыі паўстанцаў. Спачатку Вітольд Феафілавіч камандаваў узводам, а потым, калі колькасць паўстанцаў павялічылася, Валадзько перадаў яму камандаванне атрадам.

У сярэдзіне мая У. Борзабагаты атрымаў ад Кастуся Каліноўскага ўказанне накіраваць атрад пад Мілавіцы. Там планавалася сканцэнтраваць значныя сілы, каб нанесці адчувальны ўдар па царскіх войсках. Гэта палепшыла б становішча паўстанцаў у Гродзенскай губерні, якія былі выматаны ў баях.

Па плану, які распрацавалі К. Каліноўскі і В. Урублеўскі, у Слонімскім павеце пад Мілавідамі (цяпер Баранавіцкі раён Брэсцкай вобласці) было сканцэнтравана 5 паўстанцкіх атрадаў агульнай колькасцю каля 800 чалавек. За два дні да бою іх інспекціраваў сам К. Каліноўскі. Гэта ўзняло баявы дух паўстанцаў. 22 мая яны смела пачалі бой з карнікамі. Тры роты царскіх войск з 4 гарматамі некалькі разоў атакавалі слаба ўзброеных паўстанцаў, але так і не змаглі ўзяць іх лагер. Бой ішоў некалькі гадзін і закончыўся, толькі калі сцямнела. Карнікі страцілі 50 чалавек забітымі і параненымі. На дапамогу ім прыйшлі яшчэ 2 роты салдат з Нясвіжа. На наступны дзень царскія войскі прадоўжылі наступленне, але паўстанцы, правільна ацаніўшы суадносіны сіл, да таго часу пакінулі свой лагер. Праціўнік не адважыўся іх даганяць.

Гэта была адна з буйных бітваў у час паўстання 1863—1864 гадоў, у якой паўстанцы пазбеглі паражэння.

Пасля бою навагрудскі атрад атрымаў распараджэнне У. Борзабагатага вярнуцца ў свой павет. Для зручнасці і бяспекі перамяшчэння паўстанцы падзяліліся на дзве часткі. Адна з іх пад камандаваннем А. Бараноўскага паглыбілася ў Рэхаўскі лес паблізу ад мястэчка Крывошын (цяпер Ляхавіцкі раён). Але варожы атрад сумеў натрапіць на іх след. У баі, які адбыўся 9 чэрвеня, паўстанцы панеслі вялікія страты ад карнікаў, якія перавышалі іх па колькасці. В. Міладоўскі з большай часткай атрада накіраваўся ў Навагрудскі павет. 28 чэрвеня карнікі дагналі іх паміж вёскамі Драчылава і Ігнатава. У няроўным баі паўстанцы пацярпелі паражэнне. Тым не менш рэшткі абодвух атрадаў змаглі аб'яднацца і працягвалі дзейнічаць у Навагрудскім павеце. З-за малой колькасці і слабага ўзбраення яны імкнуліся пазбягаць адкрытага бою з карнікамі. Але, прытрымліваючыся такой тактыкі, яны не маглі доўга супрацьстаяць рэгулярным царскім войскам.

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

---

**Працяг.**

**Пачатак у № 5—7.**

СПАДЧЫНА



# АЗДАБЛЕННЕ КУТА Ў ВЯСКОВАЙ ХАЦЕ

Чамусьці па-за ўвагай этнографаў засталося пытанне, як беларусы ўпрыгожваюць покуць у хаце. Таму адправімся па вёсках рэспублікі, бо па іх лёгка і проста вызначыць нацыянальную, канфесійную прыналежнасць гаспадара. Так, у пакоях праваслаўных беларусаў заўважым у адным куце ўпрыгожаную ікону, тут яна знаходзіцца і ў рускіх старавераў, але прымацавана на палічцы ці над ёю. У католікаў вісяць іконы на сцяне, пры куце, а вось у пратэстантаў ікон няма, затое можна ўбачыць у рамачцы пад шклом намаляваныя ці вышытыя словы з Евангелля, а ў беларускіх мусульман — гэта "мугіры" — словы, выпісаныя з Карана. Няма ікон і ніякага сімвалічнага знака ў інтэр'еры беларускіх яўрэяў і атэістаў.

Паколькі Беларусь хрысціянізаваная краіна, то адзначым некалькі рэгіянальных традыцый упрыгожвання ікон: ручнікамі, выцінанкамі, кветкамі, галінкамі дрэў. Самае простае аздабленне і найбольш пашыранае па вёсках, мястэчках рэспублікі — ікону ахінае ручнік, а яго канцы звісаюць або на пэўнай адлегласці ад яе расхінуты і прымацаваны да сцяны. Часта можна ўбачыць — ікону ўпрыгожваюць два ручнікі, у такім разе адзін ахінае яе, другі вешаюць пад ёю. А вось, напрыклад, зайшоўшы ў хату многіх вёсак Салігорскага, Клецкага раёнаў, бачыш: бялюсенькае вышытае аздабленне кута гучыць мажорным акордам у інтэр'еры і застаўляе суцішыцца, як перад алтаром.

Праваслаўныя беларусы ўпрыгожваюць іконы не толькі ручнікамі, але і паперай — майструюць з яе кветкі, выцінанкі. Кветкі размяркоўваюць вяночкам наўкола іконы або пад шкло, а ў вёсцы Бердавічы Слонімскага раёна мацуюць над іконай, пад самай столлю, адной гарызантальнай палоскай. Напрыклад, на Мядзельшчыне ў вёсцы Азаркі-Дворышча яшчэ ў 80-я гады іконы ўпрыгожвалі так: зверху над яе рамай майстравалі "надстрэшнік" з паперы пад самую столь, на якім выразалі ўзоры ці прымацоўвалі тут асобныя папяровыя кветачкі, а ўнізе прыклейвалі нядоўгую выцінанку. Па баках зверху ўніз вешалі разрэзаную напалам па шырыні каляровую гафрыраваную паперу і перавязвалі стужкамі, а вяночак прымацоўвалі на іконе пад шклом.

Часы ваяўнічага атэізму паспрыялі ўзнікненню нетрадыцыйнага тыпу аздаблення покуці — за адной суцэльнай фіранкай хавалася ікона. Новую разнавіднасць водгаласа тых часоў можна прасачыць сёння па вёсках Качаны, Бадзені і навакольных з імі Мядзельскага раёна, дзе ікона разам з рамкай, шклом заклеена тымі ж шпалерамі, што і на сценах, і толькі праз маленькую выразаную адтулінку бачна частка твару, вочы святога. Прычынай такой неэстэтычнай манеры аздаблення было наступнае: ікона не павінна была надта кідацца ў вочы начальніку-атэісту, які заходзіў у хату.

У беларускіх католікаў няма моды ўпрыгожваць іконы, хаця такая традыцыя часам захоўваецца і ў праваслаўных, напрыклад, у вёсцы Сіманавічы Мядзельскага раёна. На Гродзеншчыне уніяты некалі вешалі ручнік не на ікону, а пад яе: перакладвалі на лазовы пруцік і падтырквалі пад ікону, ён сабой закрываў вугал кута. Яшчэ ў 50-я гады ў некаторых вёсках Смаргоншчыны галінкамі вечназялёнай елкі зімой, а летам бярозавымі аздаблялі покуць не толькі перад Калядамі, Сёмухай, але і перад значнай падзеяй у жыцці — вяселлем.

Пэўны акцэнт у пакоі робіцца на вярбе, асвячонай у Вербную нядзелю праваслаўнымі і каталікамі, якая мае зялёныя галінкі ядлоўцу, папяровыя кветачкі, ваўняныя нітачкі. Яна цэлы год вісіць каля іконы, і толькі час ад часу ад яе адрываюць кветачкі, ламаюць галінкі ядлоўцу ці вярбы і абкурваюць хату, дзяцей, жывёлу, а нітачкамі перавязваюць хворае месца пры звіху, расцяжэнні, удары.

Па словах саміх вернікаў, у аздабленні ікон яны бачаць не толькі адлюстраванне мясцовых традыцый, эстэтычны густ гаспадыні, але разглядаюць як адну з форм бяскроўнай ахвяры Госпаду. Даследаванне ўсіх рэгіянальных асаблівасцей аздаблення кута ў інтэр'еры хаты жыхароў Беларусі дае магчымасць прыадкрыць невывучаную старонку народнай творчасці.

**Марыя ЖАБІНСКАЯ.**

# ПРЭМ'ЕРА «ПЕСТУНОЎ ЛЁСУ»

У Рускім тэатры прэм'ера — спектакль "Пестуны лёсу" па п'есе Алены Паповай. Яе героі, гаворачы лексікай нашага мінулага, "з былых". Але не з тых, каго не дабілі ў семнаццатым, а з тых, каго ніяк не могуць дабіць сёння. А з тымі, з семнаццатага, іх радніць поўная непатрэбнасць і неназойлівая бессэнсоўнасць іх існавання. Здаецца, знікні куды-небудзь нядаўна звольненая па скарачэнню штатаў галоўная гераіня Ірына ці яе бацька, былы высокі ваенны чын, ці яе муж, былы камсамольскі работнік, — ніхто гэтага і не заўважыць, а калі і заўважыць, то толькі ўзрадуецца, што вызвалілася вялікая наменклатурная кватэра ў цэнтры.

Па іроніі лёсу спектакль міжволі стаў сімвалам нашага часу. Справа ў тым, што п'еса была напісана некалькі гадоў назад і нават стала лаўрэатам Еўрапейскага конкурсу п'ес у Германіі, спектаклі па ёй з поспехам ідуць у тэатрах Масквы, Таліна і Санкт-Пецярбурга, але беларускім гледачам яна стала даступнай толькі цяпер. Аднак жа ў наш змрочны час лепш не наракаць на адсутнасць нечага, а ціха радавацца, калі ўсё-такі нешта выходзіць.

Прэм'ера адбылася, і ў глядзельнай зале, як у добрыя старыя часы, не было вольных месцаў, ля ўваходу тоўпіліся тыя, каму не пашчасціла з білецікам, а ў зале ў праходах стаялі крэслы. І толькі ў антракце станавілася ясна, што добрыя старыя часы беззваротна мінулі. Раней тэатральная прэм'ера была святам, на якое старанна збіраліся і апраналі самае-самае. Сёння, напэўна, таксама апранаюць выхадны касцюм, толькі касцюм гэты, на жаль, старэнькі і даволі паношаны. Як, зрэшты, і ў герояў п'есы. Дарэчы, там ёсць і абавязковы "новы" (не будзем надакучліва ўдакладняць нацыянальнасць). Але нейкі ён не вельмі новы, ён такі ж, як і астатнія героі п'есы, проста яму крыху больш пашанцавала. "Новымі" і будуць новыя, тыя, хто прыйдзе ўслед за сённяшнімі сарака- і трыццацігадовымі. А такія, як герой Рэуцкага, проста шчаслівыя людзі, якія навучыліся круціцца ў новых варунках, аднак працягваюць пакутаваць ад старых праблем. А таму яго шкада, шкада гэтак жа, як і ўсіх астатніх персанажаў, шкада, як і ўсіх нас... Зрэшты, гэта ўжо зусім іншая размова.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# КАЛІ ПЕСНЯ ЖЫВЕ БЕЛАРУСА — БУДЗЕ ЖЫЦЬ БЕЛАРУСКІ НАРОД...

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Калі юнаку споўнілася 19 гадоў, ён пачаў працаваць у розных дзяржаўных установах, а потым адбываў вайсковую павіннасць.

Затым Уладзімір Тэраўскі трапляе ў хор вядомага дырыжора Дзмітрыя Агрэнева-Славянскага (1834—1908). Са сваёй харавой капэлай ён канцэртаваў па Расіі і за мяжой. Хор Агрэнева-Славянскага набыў вядомасць і славу выкананнем перш за ўсё славянскіх песняў. У праграме хору былі і беларускія народныя песні: "Чалавек жонку б'е", "Чаму ж мне ня пець", "Ці не дудка мая". Знаходжанне ў такім знакамітым хоры (у якасці спевака-тэнара) спрыяла творчаму станаўленню Тэраўскага, выхоўвала замілаванне да народнай песні. Спяваў ён у хоры каля трох гадоў.

Наступны перыяд дзейнасці Тэраўскага звязаны з Уралам. Як сведчыў музыказнаўца Ю. Дрэйзін у 1927 годзе, дзейнасць яго там была вельмі плённай. Ён кіраваў рабочымі хорамі чыгуналіцейных заводаў Шайтанскага і Білімбаеўскага. Тэраўскі аб'ездзіў неабсяжныя прасторы ўсходняй часткі Еўрапейскай Расіі, і ўсе канцэрты яго мелі незвычайны поспех. У рэпертуары хору значнае месца займала беларуская песня. На гэтых заводах ён працаваў пяць гадоў.

Але Тэраўскага цягнула на Радзіму. У 1901 годзе ён вярнуўся на Беларусь. Тут працаваў настаўнікам і хормайстрам у школах Мінска, рэгентам царкоўнага хору ў Старажоўскай царкве. Звестак аб гэтым перыядзе яго дзейнасці захавалася мала.

Цяпер да месца будзе даць характарыстыку грамадска-палітычнай сітуацыі на пачатку XX стагоддзя. Папярэдняе XIX стагоддзе было для развіцця адраджэнскага руху як бы трамплінам. Пачынаючы з XIX стагоддзя, беларуская народная песенная творчасць паступова ўваходзіла ў сусветную музычную літаратуру. Праз усё XIX стагоддзе адшукваецца беларускі фальклор. Першыя запісы яго робяць расійскія збіральнікі. Беларускія напевы скарыстоўваюць кампазітары М. Глінка, С. Манюшка і іншыя.

Падзеі рэвалюцыі 1905 года ў Расіі адгукнуліся на Беларусі абуджэннем нацыянальна-адраджэнскага руху, які захапіў беларускую інтэлігенцыю, студэнцтва, гімназічную і школьную моладзь (асабліва ў Пецярбургу, Вільні, Мінску, Магілёве). Аб'яднаўчым цэнтрам гэтага руху робіцца газета "Наша ніва", якая згуртоўвае вакол сябе ўсе лепшыя, перадавыя сілы нацыянальнага адраджэння, стварае ў гісторыі беларускага руху славуты "нашаніўскі" перыяд. Цікавасць да ўсяго нацыянальна-беларускага з'явілася штуршком да арганізацыі музычных і харавых гурткоў, збірання фальклору.

Літаратура гэтага перыяду (К. Каганец, Ядвігін Ш., Цётка, Янка Купала, Якуб Колас, А. Гарун, М. Багдановіч) узначальвае грамадскае ўзрушэнне і стварае глебу для музычнай творчасці. Музыка ж аказвае ўплыў на беларускую паэзію.

Беларускія гурткі ладзілі першыя вечарынкі, дзе выконваліся п'есы, дэкламаваліся вершы, гучалі харавыя і сольныя спевы, аркестравыя творы і, вядома ж, прысутнічалі скокі. Вечарынкі ператвараліся ўсюды ў вялікія падзеі, да якіх рыхтаваліся і якіх чакалі і гледачы-слухачы, і выканаўцы.

Абставіны жыцця нашаніўскага перыяду стварылі такія ўмовы, якія мусілі вылучыць сваіх нацыянальных музыкаў творчага напрамку. Гэта У. Тэраўскі, А. Грыневіч, А. Ягораў і іншыя, якім давялося на працягу доўгага часу пераносіць ідэі нашаніўства ў музычную будучыню Беларусі. Такі пачатковы творчы этап быў гістарычна патрэбным і неабходным і склаў цэлую эпоху ў музычным жыцці.

Эстэтычныя погляды У. Тэраўскага фарміраваліся пад непасрэдным уплывам беларускай літаратуры. Асаблівую ролю ў гэтым адыграла цесная сувязь кампазітара з Янкам Купалам, які часта бываў на рэпетыцыях і канцэртах у "Беларускай хатцы". Тут быў пакладзены пачатак іх дружбе. Тэатр ставіў п'есы Янкі Купалы "Паўлінка" і "Раскіданае гняздо", якія хор аздабляў спевамі. На вершы паэта Тэраўскі напісаў шмат песняў, большасць іх увайшла ў "Беларускі спеўнік", які выйшаў у 1921 годзе. Калі ў 1922 годзе быў выдадзены "Беларускі лірнік", Янка Купала адзначаў, што "кніжка такая выйшла вельмі па часе. Усе надрукаваныя ўперад "спеўнікі" з нотамі разышліся, а запатрабаванне на іх вялікае, і "Лірнік", безумоўна, хутка разыдзецца па Беларусі са сваімі смутнымі і вясёлымі песнямі". Па сведчанні вучня і сябра Канстанціна Пуроўскага, у бібліятэцы Тэраўскага быў зборнік вершаў паэта "Шляхам жыцця" з дароўным надпісам 1914 года.

Першы свой хор Тэраўскі стварыў у другой палове 1914 года. Працуючы ў мінскіх школах, ён меў магчымасць выбраць вучняў з добрымі галасамі. Як вядома, у 1914 годзе пачалася першая сусветная вайна. У мінскіх шпіталях знаходзілася многа параненых. Хор у колькасці 15 чалавек выступаў у шпіталях. У сваім рэпертуары ён налічваў не больш дзесяці нумароў. Спачатку публіка крытычна аднеслася да беларускіх песняў. Але хор прадаўжаў працаваць над павышэннем выканаўчага майстэрства і з кожным разам знаходзіў усё больш прыхільнікаў. Вельмі горача віталі хор ваякі-беларусы, пачуўшы родныя песні. Яны пачалі даваць хору свае вясковыя песні.

Недзе ў 1916 годзе У. Тэраўскі, дзякуючы Віктару Чавусаву, выступіў першы раз публічна з невялічкім хорам на беларускай вечарынцы. В. Чавусаў — працаўнік "Таварыства помачы пацярпелым ад вайны", добры акцёр і спявак, удзельнік "Таварыства працаўнікоў прыгожага мастацтва".

Багатым і насычаным падзеямі быў 1917 год. Тэраўскі, як шчыры беларускі працаўнік, не стаяў у баку ад грамадскіх падзей. Хор выступаў на з'ездзе беларускіх арганізацый і партый 10 ліпеня 1917 года. Прысутнічаў ён і ў снежні на Усебеларускім з'ездзе. З. Бядуля пісаў: "А 8-й гадзіне аркестр ваеннай музыкі іграў Марсельезу. Потым выступіў беларускі хор у нацыянальных вопратках. Над іх галовамі красаваліся беларускія нацыянальныя сцягі. Спявалі беларускія гімны: "Ад веку мы спалі", "А хто там ідзе?" і "Чырвоны знак". Усе слухалі гімны, стоячы без шапак".

Газета "Вольная Беларусь" сістэматычна змяшчала хроніку жыцця беларускага тэатра. 7 ліпеня аўтар П. К. (Я. Лёсік) паведамляў аб пастаноўцы "Паўлінкі". Пасля пастаноўкі аркестр выканаў беларускі гімн "А хто там ідзе?", а хор спяяў Марсельезу і песню Бальмонта "Да здравствует Россия". Аўтар піша: "Шмат у каго са свядомых беларусаў заварушылась недзе ў сярэдзіне думка: "А ці ня можна было б так зрабіць, каб беларускі хор на беларускім ігрышчы пяяў беларускі гімн, беларускія рэвалюцыйныя песні?.."

Трохі пазней у газеце той самы аўтар паведамляў аб спектаклі Першага Беларускага таварыства драмы і камедыі п'есы Янкі Купалы "Раскіданае гняздо", пасля чаго "хор паправіўся трохі й не частаваў ужо нас маскоўскімі песнямі, а даволі прыгожа спяяў у пачатку ігрышча "А хто там ідзе?" і "Ад веку мы спалі", устрэчаныя публікай надта прыхільна. Затое артысты пастараліся, дай бог ім здароўечка, выявіць усю чыстату й пекнату беларускай мовы".

**Аляксандра ГЕСЬ, Уладзімір ЛЯХОЎСКІ.**

**(Працяг будзе).**

МІКАЛАЙ КОТАЎ ДОМА І ЗА МЯЖОЙ

# «РАЗВЯСЁЛЫ ТАНЦАЎНІК»

Пры першай сустрэчы з ім наш амерыканскі суайчыннік Янка Запруднік назваў яго "развясёлы танцаўнік". Гэта таму, што амаль два тыдні забаўляў ён сваіх гасцей па запрашэнню ўсебеларускай суполкі "Бацькаўшчына" ў паездцы па старажытных мясцінах рэспублікі. І Міколу Котаву — вядомаму беларускаму балетмайстру — вельмі даспадобы прыйшлася гэтая незвычайная мянушка.

На Палессі яму найасабліва было прыемна даказаць ветлівасць і прыгажосць раднюткага кутка. Было тут удосталь і песень з танцамі, і гарэлкі з ухой. Бо ў гэтых краях ён, як кажуць, свой чалавек. Больш трыццаці гадоў таму стварыў і не менш дваццаці гадоў кіраваў у Тураве на Гомельшчыне самадзейным танцавальным ансамблем "Прыпяць". Усю душу, талент і ўменне аддаваў Мікола, каб гэты калектыў стаў такім, які ён зараз, каб увабраў у сябе ўсё багацце народнага унікальнага палескага краю. "Тураўская полька", "Палеская гулянка", "Кадрыля", "Гапак" ды многія іншыя танцы, як маленькія відовішчныя спектаклі, адлюстроўваюць, перадаюць самабытныя традыцыі і звычаі палешукоў. Таму прыезд Міколы Котава ў свой родны калектыў з гасцямі быў сапраўдным святам. І нашы "абамерыканеныя" суайчыннікі з годнасцю ўспрынялі этнічную беларускую шчырасць і дабрыню.

І неўзабаве ў падзяку запрасілі да сябе гіда, які зачараваў іх. Але ж і там, у прыгажуткім Саўт-Рыверы ў гасцях у Сцяпана Мядведкі, Жоржа Навумчыка, у сем'ях Дубягаў, Лютаровічаў Соні і Стасі Мікола заставаўся самім сабой, як у сябе дома, такім жа неўтаймаваным веселуном-танцорам з бубнам над галавой, грукочучы абцасамі ў іх амерыканска-беларускім цэнтры. І бясспрэчна назаўсёды пакінуў там заліхвацка-віхурную беларускую "Лявоніху".





— Шмат-шмат разоў бачыў Мікалая на сцэне і кожны раз успамінаў несмяротнага Ігната Буйніцкага. Котаў не толькі выдатны артыст і балетмайстар, ён адзін з самых яркіх выканаўцаў фальклорных танцаў, чый уклад у развіццё беларускай харэаграфіі несумненны, — не ўтрымаўся аднойчы ад водгуку вядомы беларускі пісьменнік і навуковец Ніл Гілевіч.

А старэнькая бабулька колісь і зусім расчуліла Міколу, пабачыўшы яго на сцэне:

— Шчаслівая тая маці, якая нарадзіла такое дзіця.

Мікола Котаў заўсёды ў віры танца, у коле карагода, сярод чароўных мелодый. Зараз ён працуе ў Беларускім саюзе фальклярыстаў і аднычасова песціць дзіцячы фальклорны ансамбль "Дударыкі" Мінскай нацыянальнай гімназіі, які ведаюць даўно і далёка за межамі Беларусі.

А ўсяго на яго творчым рахунку ўжо чатыры калектывы, якія ён, як кажуць, вывеў "у людзі" з ганаровымі званнямі "народныя" і "ўзорныя". Гэта тыя агеньчыкі, вакол якіх грэюцца людзі, адтайваюць душой, успамінаючы старадаўнія абрадавыя мелодыі, гледзячы на вясельныя танцы і кірмашовыя карагоды, якія вадзілі іх блізкія і далёкія продкі.

Звычайна пра такіх дзеячаў, як Мікола Котаў, гавораць, што ён збірае па драбніцах і адраджае ў першароднай красе дыяменты фальклорных карункаў. Гэта адзін з тых струменьчыкаў, што жывяць нашу культуру і даюць магчымасць людзям напіцца гаючай вады несмяротнай спадчыны.

З многіх беларускіх прымавак, паданняў, пажаданняў і прыпевак яму больш за ўсё даспадобы:

**А гармонік грае, грае,**
**Зазывае не тужыць,**
**Бо пакуль гармонік грае, —**
**Беларусы будуць жыць.**

**А. СУРЫНОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Мікалай КОТАЎ; М. Котаў на фестывалі фальклору ў Тураве Гомельскай вобласці (першы злева).**

***НАВУКОВЫ ПОШУК***

# У ДАБРАЎЛЯНАХ, ПРЫСТАНКУ МУЗ, У 1863 ГОДЗЕ...

Мацільда Бучынская была першым і апошнім прэзідэнтам таварыства. З прыбыццём у Вільню Мураўёва (май 1863 года) таварыства было разагнана, а яго кіраўніцтва арыштавана. За краты трапілі: Мацільда Бучынская (прэзідэнт), Валерыя Вейсенгоф (віцэ-прэзідэнт), Ідалія Лапацінская (сакратар), Марыя Кастравіцкая (скарбнік), Багуміла Душакевіч (кантралёр).

Вялося дробязнае, прыдзірлівае, абразлівае следства. Пра чалавекалюбства — высокія мэты вінцэнцінак — зусім забыліся. "В 1863 году открылось, что учрежденное Бучинскою общество St.-Vincent de Paul принимало в деле мятежа самое живейшее участие. На средства этого общества содержались целые толпы уличных певцов и певуний революционных гимнов и наблюдателей за ношением траура" (Нікоцін).

Ужо згаданы мураўёўскі чыноўнік Масалоў, маладзён, не тое што іншыя, адукаваны і дапытлівы, і не без свецкага глянцу, бачыў Бучынскую ў Францішканскай турме (на Троцкай вуліцы) недзе ўвосень (або пад восень) 1863 года. Ён суправаджаў англійскага карэспандэнта О'Браена, які пажадаў на ўласныя вочы пазнаёміцца з віленскімі вязніцамі, з умовамі ўтрымання палітычных арыштантаў. Прывядзём услед за Масаловым цікавае апісанне візіту ў былы кляштар, прыстасаваны пад астрог: "После обзора некоторых арестантских [камер], мы были приведены в комнату, где содержалась богатая виленская помещица Матильда Бучинская, урожденная Гинтер. Высокого роста, величественная, уже пожилая, г-жа Бучинская приняла нас весьма любезно, как великосветская женщина принимает в своей гостиной. Она поразила нас своим умом, познаниями и живостью. В какие-нибудь десять минут речь зашла даже о Данте; она говорила, что вовсе не сетует, а благодарит судьбу за это небольшое испытание, так [как] она до сих пор не знала в жизни превратностей и теперь только в этом уединении лучше научилась понимать некоторые вещи и думать о том, на что прежде не обращала внимания. У постели ее висел на стене ковер, на столике перед диваном стояли следы домашнего обеда, на окне в горшке под стеклом она выращивала какую-то травку. Г-жа Бучинская содержалась не как подсудимая, но в виде административного взыскания за прежние ее подвиги и руковождения в демонстрациях всякого рода; а месяца через три она отправлена была в Нижегородскую губернию. Вообще, содержание в Францисканской тюрьме считалось самым легким по сравнению с остальными тюрьмами. Прощаясь с англичанином, она смеясь сказала ему: "и так передайте в вашем отечестве, что вы видели в виленских тюрьмах женщину веселую и совершенно довольную своим положением", а мне она выразила надежду увидеться где-нибудь со временем при более счастливых обстоятельствах". Як бачым, у памяці Масалова астаўся вобраз жанчыны неардынарнай, духоўна багатай. Своеасаблівы філасофскі падыход да жыцця памагаў ёй стойка пераносіць нягоды (зрэшты, у яе выпадку даволі адносныя).

З даведкі пра Бучынскую ў "Польскім біяграфічным слоўніку" (аўтар — вядомы віленскі краязнавец даваеннага часу М. Брэнштэйн — меў магчымасць пазнаёміцца з архівам таварыства вінцэнцінак) відаць, што пані Мацільду саслалі ў адміністрацыйным парадку ў Ніжагародскую губерню ў сакавіку 1864 года. Дарагія яе сэрцу Дабраўляны былі секвестраваны (узяты ў казну), а потым перайшлі ў чужыя рукі. Некалькі гадоў пражыла наша філантропка ў заволжскай глухамані сярод суровых раскольнікаў і лыжачнікаў-саматужнікаў (мясціны, апісаныя потым Мельнікавым-Пячэрскім). Толькі ў 1867 годзе змагла Бучынская вярнуцца з выгнання ў блізкую ёй Варшаву, дзе неўзабаве і памерла.

Дык вось, выходзіць, які маёнтак арандаваў у 1863 годзе аўтар "Гапона" і будучы творца "Пінскай шляхты". Прыведзены матэрыял досыць пераканаўча сведчыць аб сувязі нашага пісьменніка з бліскучай арыстакратычнай сям'ёй Гюнтэраў. Пазнаёміцца з імі ён мог праз Сыракомлю, які сябраваў як з Габрыеляй Пузынай, так і з Мацільдай Бучынскай. Ды і ўвогуле нейкія сувязі з арыстакратыяй у Дуніна-Марцінкевіча былі. Вядома, што ў 1858—1863 гадах ён быў даверанай асобай уладальніцы маёнтка Нарова Ковенскага павета графіні С. Грабоўскай па справе аб раздзеле маёнтка з братамі Пржаленцкімі (між іншым, апошнія таксама падпісаліся на марцінкевічаўскі пераклад "Пана Тадэвуша"). У 1861 годзе "для встречи и сопровождения возвращавшейся из-за границы графини Грабовской" пісьменнік ездзіў у Варшаву.



Трэба думаць, яму блізкая была патрыятычна-філантрапічная дзейнасць Мацільды Бучынскай, як і ідэі класавай гармоніі і салідарызму. Усёй сваёй творчасцю пісьменнік "милость к падшим призывал". А ў адкрытым пісьме ў рэдакцыю "Газэты польскай" (1861) ён наўпрост — без хітрыкаў — заклікаў: "Яшчэ ёсць час, каб нашы грамадзяне спахапіліся і, утвараючы школкі, прытулкі і прыносячы іншыя магчымыя ахвяры, імкнуліся гэтую малодшую брацію сваю, якая ўмее быць удзячнай, прытуліць да сэрца і для ўсеагульнага дабра з ёй моцна аб'яднацца". Хіба не ў гэтым самым рэчышчы дзейнічала і пані Мацільда? Апошняй Дунін-Марцінкевіч у нялёгкія часы патрэбны быў да таго ж як чалавек з вялікім жыццёвым і юрыдычным вопытам. Тым больш, што яна ўмела цаніць таленавітых людзей, а як прэзідэнту таварыства вінцэнцінак ёй імпанавала, напэўна, і само імя нашага пісьменніка.

Вядома, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч — чалавек вельмі незаможны — сам вось так раптам на арэнду буйнога маёнтка ўзбіцца не мог. Паводле польскага "Слоўніка геаграфічнага", у перыяд правядзення рэформы 1861 года да маёнтка Дабраўляны належала 300 сялянскіх двароў у вёсках Завідзіненты, Зяновішкі, Лылойці, Крываносы, Супраненты, Пазборцы, Хвядзевічы (Хвядкевічы?), Хаціловічы, Хацілкі, Хаяцкоўшчына і г. д. Гэта ж падумаць толькі — цэлы свет! Такая буйная арэнда нашаму пісьменніку была не пад сілу. Думаецца, што арэнда гэтая была фармальнай, можна сказаць, пэўнай фікцыяй. Хутчэй яна прыкрывала прыяцельскія, у кожным разе больш-менш блізкія адносіны Дуніна-Марцінкевіча з Бучынскай. Мабыць, Марцінкевіч у сваім немаладым веку не хацеў прымаць непасрэднага ўдзелу ва ўзброеным паўстанні, не бачыў перспектыў для яго поспеху, і Бучынская дала яму магчымасць адседзецца ў зацішным месцы (мы ж помнім, што пісьменніку пагражаў арышт). Ды і ёй самой у гэты трывожны час быў патрэбны надзейны чалавек, які апекаваўся б каласальнымі культурнымі (ды і проста матэрыяльнымі) багаццямі выдатнага маёнтка.

І вось здарылася так, што, калі навокал грымела паўстанне, наш пісьменнік бавіў час сярод гаспадарчых клопатаў у высокакультурнай абстаноўцы Дабраўлянаў.

Праўда, спакой гэты быў ілюзорным. Можам уявіць сабе, як балела яго сэрца, з якой прагнасцю лавіў ён звесткі пра дзеянні паўстанцаў і царскія рэпрэсіі. Да зразумелай трывогі не толькі за сябе, але за блізкіх і землякоў дадавалася неадступная думка, што і як будзе з Беларуссю. Відаць, ён мог бы сказаць пра 1863 год у сваім жыцці тое ж самае, што сказаў пазней Янка Купала пра смаленскі перыяд сваіх жыццёвых блуканняў: "Там, жывучы праз увесь цяжкі і жудкі 1918 г., я папраўдзе быў як непрытомны" (Купала Я. Зб. тв. у 7-мі т. Мн., 1976. Т. 7. С. 452).

Пасля секвестру Дабраўлянаў з маёнтка быў выгнаны і арандатар (відаць, можна ўзяць гэтае слова і ў двукоссе) Марцінкевіч. Ён знайшоў новы прытулак у недалёкім мястэчку Свір. Думаецца, што і гэта не выпадкова. Калі не ўсё мястэчка, то яго частка адносілася ў тыя часы (прынамсі перад рэформай) да маёнтка мужа Бучынскай Болькава. У кожным выпадку ў Бучынскіх, як і ў Гюнтэраў, у Свіры былі моцныя традыцыйныя сувязі.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: У. Сыракомля. Малюнак У. Падкавінскага.**

**Працяг.**

**Пачатак у №№ 5—7.**

